# РОЗГАЛАС

## БАРСЕЛОНА-92

### «ЗОЛАТА», ЗНОЎ «ЗОЛАТА»...

Калі б зборная суверэннай Рэспублікі Беларусь выступала на Гульнях у Барселоне самастойнай камандай, яна пасля пяці дзён спаборніцтваў трывала ўваходзіла б у першую шасцёрку каманд, якія маюць на сваім рахунку найбольшую колькасць узнагарод самай высокай пробы. Мяркуйце самі: па стану на ўчарашні дзень у актыве беларусаў, што выступаюць, як вядома, пакуль што пад сцягам СНД, было пяць залатых медалёў!

У мінулым нумары мы паведамлялі, што плыўчыха з Гомеля Алена Рудкоўская на першым сваім старце не дацягнула да медаля ўсяго толькі некалькі імгненняў: яна была чацвёртай. Алена, як прынята было ў нас казаць нядаўна, перабудавалася літаральна на наступны дзень, выйграўшы адразу дзве залатыя ўзнагароды: на дыстанцыі 100 метраў брасам і ў эстафеце 4×100 метраў.

Упэўнена ішла да перамогі мужчынская зборная Садружнасці Незалежных Дзяржаў па спартыўнай гімнастыцы, якую вёў яе лідэр апошніх гадоў Віталь Шчэрба. 20-гадовы мінчанін папоўніў сваю калекцыю чэмпіёна Еўропы і свету алімпійскім «золатам» у камандным турніры. Дарэчы, Віталь лідзіруе і ў асабістым турніры мнагаборцаў, мае нядрэнныя перспектывы і ў практыкаваннях на асобных снарадах. Так што, мяркуючы па ягонай спартыўнай форме, пра Шчэрбу свет яшчэ пачуе...

Упэўнена выступае на Алімпіядзе і каманда гандбалістаў СНД, якую трэніруе настаўнік мінскага СКА Спартак Міранович. Пазаўчора ягоныя выхаванцы выйгралі другі матч запар — на гэты раз у каманды Францыі — 22:21. Нагадаем: у зборнай выступаюць тры армейцы Мінска— Андрэй Барбашынскі, Міхаіл Якімовіч і Андрэй Мінеўскі.

На жаль, не ўсе радуюць сваёй стабільнасцю, высокай гатоўнасцю да алімпійскіх баталій. 29-гадовы Міхаіл Рыбак з Мінскай вобласці, выступаючы ў конным трохбор'і, пасля першага віду — выездкі ўладкаваўся ўсяго толькі на 57-м месцы.

А вось адно з апошніх паведамленняў. Вядомая мінская тэнісістка Наталля Зверава, «пасеяная» на турніры пад нумарам 26, усяго толькі за 54 мінуты пераканаўча перамагла Яну Новатну з ЧСФР, якая, дарэчы, уваходзіць у дзесятку мацнейшых у свеце. Лік—6:1, 6:0, як кажуць, каментарыяў не патрабуе.

## КАЛІ ХОЧАШ СТАЦЬ БАНКІРАМ

ПІНСК. Па-навуковаму гэта называецца навучаннем на гаспадарчаразліковай аснове. На больш папулярнай мове сэнс гэтага зводзіцца да простай формулы: хочаш атрымаць дыплом банкаўскага служачага — плаці грошы. І немалыя. На базе дзевяці класаў — 28 тысяч рублёў, на базе адзінаццаці — 18 тысяч. Але гэтыя грошы яшчэ не гарантуюць атрымання студэнцкага білета Пінскага ўлікова-крэдытнага тэхнікума. Трэба здаць уступныя экзамены, вядома ж, на станоўчую адзнаку. Але, як ні дзіўна, у абітурыентах сёлета недахвату няма. Усе 125 месцаў поўнасцю ўкамплектаваны.

Прычына такога яшчэ нязвыклага навучання ў тым, што ніхто не хоча фінансаваць гэтую навучальную ўстанову.

## ЮНЫ ЧЭМПІЁН СВЕТУ



Упершыню на чэмпіянаце свету па шахматах сярод юнакоў і дзяўчат, які праходзіў у нямецкім горадзе Дуйсбургу, Беларусь выступала самастойнай камандай. Рэспубліка выставіла дзесяць удзельнікаў ва ўсіх пяці ўзроставых групах. І дэбют юных беларускіх шахматыстаў быў шчаслівым.

Зусім нечаканым для ўсіх стала ўзыходжанне на чэмпіёнскі п'едэстал 14-гадовага мінчаніна Юрыя Ціханава. Юра — выхаванец СДЮШАР № 11 па шахматах. Ён стаў першым чэмпіёнам свету па шахматах у асабістым заліку за ўсю гісторыю Беларусі.

Фота Генадзя СЯМЁНАВА. (БЕЛІНФАРМ).

## БЕЛАРУСКІЯ СКАЎТЫ: «БОГ І БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Аб'яднанне беларускіх скаўтаў (АБС) наладзіла сёлета некалькі летнікаў паблізу Гродна, Маладзечна, Мінска.

Першы з трох прынцыпаў скаўцкага руху — «Бог і Бацькаўшчына»— для беларускіх скаўтаў гучыць як заклік да абуджэння памяці, уведамлення каштоўнасцей культуры і гісторыі свайго народа.

Будзем спадзявацца, што скаўты пакінулі летнікі сапраўды лепшымі, чым прыехалі туды, што налета зноў вернуцца, каб здзейсніць тое, што сёлета не паспелі.

**Скаўт-канцлер Аб'яднання беларускіх скаўтаў А. ЖУКОЎСКІ.**

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## «БІ-БІ-СІ»

**Марго, жонка Хонекера, не паехала з ім у Берлін. Яна папрасіла дазволу чылійскіх улад застацца ў пасольстве, каб сабраць свае рэчы.**

Калі канфлікт у Босніі не будзе спынены, то ў цэнтры Еўропы з'явіцца пастаянная велізарная маса бежанцаў. Назіральнікі выказваюць сумны прагноз, што югаслаўскі варыянт магчымы ў былых савецкіх рэспубліках.

**Міністр фінансаў Францыі рэзка пакрытыкаваў даклад, у якім сцвярджаецца, што ўвядзенне адзінай еўрапейскай валюты затармозіць рост эканомікі ЕС.**

Міжнародны Чырвоны Крыж апублікаваў справаздачу аб стварэнні сербамі канцлагераў. У Босніі, напрыклад, існуюць 4 такія лагеры. Так, у былой шахце трымаюць 5 тысяч чалавек, якіх амаль не кормяць. У другім лагеры, які размешчаны ў былой ваеннай канюшні, знаходзяцца 4 тысячы чалавек. Трэці разбіты на тэрыторыі пачатковай школы і абнесены калючым дротам. Весткі аб лагерах паступаюць і з іншых крыніц. Сербы выкарыстоўваюць такую тактыку: чарговую вёску падвяргаюць абстрэлу, а людзей, якія пакідаюць сховішча, вывозяць. Потым на грузавіках вывозяць маёмасць, а вёску спальваюць. Так некалі фашысты рабілі з яўрэямі.

**У Самалі шмат дзяцей штодзень паміраюць ад голаду. Многія дзеці вельмі худыя, іх рукі і ногі таўшчынёй 3—4 см. У сталіцы Магадыша тысячы галодных дзяцей валяюцца на вуліцах, блукаюць у пошуках ежы. Ад дыстрафіі ў Самалі пакутуюць 80 працэнтаў дзяцей ва ўзросце да 5 гадоў.**

Ф. Кастра, як вядома, наведаў у Іспаніі вёску свайго бацькі. Той у свой час прыехаў на Кубу як салдат іспанскай арміі падаўляць на востраве рух за незалежнасць. Новы свет уразіў Кастра-бацьку. Ён вярнуўся на Кубу з мэтай «зрабіць грошы». Жаніўся на мясцовай жанчыне, меў ад яе 2 дзяцей і яшчэ 5 — ад сваёй кухаркі Ліны Рус Ганзалес. Сярод незаконнанароджаных быў і Фідэль Кастра.

## «ГОЛАС АМЕРЫКІ»

**Як паведамляе армянскае інфармацыйнае агенцтва «Лур», атрады самаабароны Нагорнага Карабаха працягваюць наступленне ў Мардакерцкім раёне. За апошнія 2 дні азербайджанцы страцілі больш за 100 чалавек. З іх боку дэзірціруюць чэчэнцы і рускія, якіх вымушаюць змагацца на перадавой. 75-я дывізія былога СССР у Нахічэвані расфарміравана, яе зброя перайшла пад мясцовую юрысдыкцыю.**

У нядзелю М. Палтаранін вылятае на тыдзень у Токіо для падрыхтоўкі візіту Б. Ельцына.

**Японія гатовая супрацоўнічаць з Расіяй у справе эксплуатацыі атамных караблёў.**

Дырэктар інстытута матэматыкі пры Расійскай акадэміі навук Ігар Шафарэвіч атрымаў пісьмо ад кіраўніка амерыканскай акадэміі навук з просьбай прадумаць пытанне аб адмаўленні ад членства ў амерыканскай акадэміі. Прычына — выказванні Шафарэвіча аб тым, што ў перамозе бальшавікоў у Кастрычніцкай рэвалюцыі вінаваты яўрэі, што яны ўвогуле хочуць знішчыць рускую культуру.

● РАДЫЁПЕРАХВАТ

## ЗБІРАЕЦЦА ВЯЛІКАЯ РАДНЯ

Першым беларускім самалётам з Нью-Йорка ў Мінск прыляцела група нашых суайчыннікаў. Гэта каля сарака чалавек, што гуртуюцца вакол беларускага культурнага цэнтра ў Амерыцы «Полацак» і, у прыватнасці, удзельнікі хору царквы Жыровіцкай Божай Маці з Кліўленда. Многія з іх упершыню скарысталі магчымасць наведаць Бацькаўшчыну пасля доўгага расстання. Землякі прывезлі падарункі для дзяцей-сірот, медыцынскую дапамогу, ахвяравалі сродкі на развіццё рэабілітацыйнага цэнтра таварыства сляпых.

Але, як заўважыў на сустрэчы з амерыканскімі гасцямі міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, Беларусь, удзячная за дапамогу і падтрымку ў цяперашні цяжкі час, надалей будзе імкнуцца ладзіць стасункі з беларускім замежжам не як бедная сваячка, а як апякунка. Беларусы ва ўсім свеце павінны адчуваць клопат Бацькаўшчыны.

На гэтай жа сустрэчы, дзе прысутнічала грамадскасць сталіцы, лідэры палітычных партый, і пачала абмяркоўвацца ідэя правядзення наступным летам Сусветнага з'езда беларусаў на Радзіме. Падрыхтоўчыя клопаты з агульнай згоды ўзяло на сябе Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ. УСПАМІНЫ І РОЗДУМ

# Міхаіл ЗІМЯНІН: «У 70-Х МЫ МЕЛІ ЎСЁ, АКРАМЯ АДНАГО— ПАЛІТЫЧНАЙ ВОЛІ»

(Працяг. Пачатак у № 150).

**— Міхаіл Васільевіч, вы шмат і своеасабліва расказвалі пра апошняга лідэра былых СССР і КПСС. Цікава пачуць таксама пра яго папярэднікаў. Возьмем, напрыклад, Брэжнева. Для вас, відаць, не сакрэт, што ў народзе нябожчык Генсек успрымаўся, мякка кажучы, зусім не інтэлектуалам, хоць апошнім часам пачынаюць цаніць дадзеную ім стабільнасць жыцця, упэўненасць у дні заўтрашнім...**

— Не ўсё тут проста. Будучы здаровым і моцным, Брэжнеў заставаўся цвёрдым прагматыкам, які паставіў кропку на хрушчоўскіх хістаннях, што ў многім парушылі парадак у краіне. Ён і Касыгін лічылі найгалоўнейшай задачай менавіта стабілізацыю становішча ў краіне, уздым жыццёвага ўзроўню на больш высокі парадак. Не скідвалася таксама з рахунку паступовае, але паступальнае развіццё дэмакратыі ў краіне, савецкай дэмакратыі, дзяржаўнай...

**— Вядома, аднак, што погляды двух лідэраў таго часу не ва ўсім супадалі?**

— Так, асабістае саперніцтва мела месца...

На момант пачатку сваёй работы Брэжневу ўдалося згуртаваць кадры партыі і дзяржавы. Ён аб'яднаў іх думкай аб спакойнай, дружнай рабоце. Былі намечаны пэўныя планы, прадуманы важнейшыя пазіцыі, і краіна адразу пайшла па шляху ўздыму. На шчасце, менавіта ў гэты момант (на шчасце для таго часу) адкрыліся каласальныя нафтавыя залежы ў Цюменскай вобласці. Мы ў пэўным сэнсе маглі тады канкурыраваць з арабскімі нафтаздабываючымі дзяржавамі. У выніку, я думаю, СССР атрымаў парадку двухсот мільярдаў, якія імгненна пайшлі ў ход. У значнай меры гэтыя гіганцкія на той час сумы былі пушчаны ў справу, але адначасова яны пайшлі на звычайнае праяданне. Напрыклад, вырашылі закупляць хлеб... Замест фарсіраванага развіцця сяла!

Пасля ўвядзення ў севазварот цалінных і залежных зямель рост ураджайнасці хоць і павялічыўся, але марудна, патрэбнасці краіны не забяспечваліся. Замест дзейснай увагі да патрэб сялян на-гара выдаваліся бясконцыя пражэкты, а прылаўкі запаўняліся прадуктамі, купленымі за мяжой.

Паралельна ў значнай меры развіліся спажывецкія настроі. Бо ўраўняльныя тэндэнцыі, сістэма аплаты зніжалі зацікаўленасць людзей у добрасумленнай працы. Дарэчы, калі цяпер спрабуюць пракампенсаваць так званым уваходжаннем у рынак, — гэта стварэнне той самай матэрыяльнай зацікаўленасці, якая раней сапраўды недаацэньвалася. У выніку людзі жылі вельмі сціпла, а сёй-той нават галаднавата. У прыватнасці настаўнікі і ўрачы. Як сакратар ЦК я на працягу пяці гадоў дабіваўся павышэння ім зарплаты, і дабіўся ўсё ж, але прыбаўка аказалася вельмі сціплай — на адну трэць. А яны стаялі ніжэй сярэдняга ўзроўню зарплаты па краіне... А гэта ж вядучыя атрады інтэлігенцыі! Аснова інтэлігенцыі ў любой краіне...

Такім чынам, нягледзячы на тое, што ў 60—70-х гадах на поўную моц была ўсвядомлена неабходнасць інтэнсіфікацыі вытворчасці, павышэння яе навукова-тэхнічнага ўзроўню, ад слоў да справы, тым не менш, была дыстанцыя вялізнага памеру.

У сувязі са сказаным заўважу: асноўная слабасць Брэжнева заключалася ў задавальненні ад карціны знешняга дабрабыту, ён увесь час імкнуўся падтрымліваць яе і нас на гэта нацэльваў: «Не ганьце краіну, крытыкуйце, але ў меру» і г. д., і г. д.

**— Ці спрабаваў хто-небудзь дастаткова жорстка пярэчыць Генеральнаму сакратару?**

— Так. Напрыклад, Касыгін, які ў адносінах да эканамічных рэалій быў настроены куды больш крытычна, востра, жорстка. У выніку яны зразумелі, што давядзецца развітвацца. Касыгін пайшоў адпачываць... Праўда, гэтаму паспрыяла яго ж неасцярожнасць — у час катання перавярнуў лодку. Аляксея Мікалаевіча ледзь выратавалі. Здарылася гэта пад Масквой, на дачы. Пасля лячэння ён значна аслаб, што і паспяшаўся скарыстаць Брэжнеў — замяніў Старшыню Саўміна старым сябрам Ціханавым, хоць той, канешне, ні ў якое параўнанне са сваім папярэднікам не ішоў.

**— Калі ўжо мы закранулі тэму «дварцовых пераваротаў», дык раскажыце і пра ўход трэцяга з афіцыяльных кіраўнікоў краіны таго часу, Падгорнага.**

— Ён пакінуў палітычную арэну, калі спрабаваў арганізаваць, дакладней, падрыхтаваць замену Генсека менавіта Касыгіным, адразу пасля інсульту ў Брэжнева. Мікалай Віктаравіч дзейнічаў дастаткова асцярожна, ён быццам бы праяўляў цікавасць да магчымых кадравых перастановак. Але акружэнне Брэжнева інтэрпрэтавала сітуацыю больш жорстка, Генеральнаму далажылі сітуацыю ў зусім пэўным святле, і той пастараўся як мага хутчэй адхіліць Падгорнага. Нават пасля свайго вельмі цяжкага інсульту Брэжнеў не лічыў магчымым адыходзіць ад спраў.

Але вернемся крыху назад. Тое, што нам тады здавалася шчасцем (я маю на ўвазе нафтавы бум), на самай справе адтэрмінавала высвятленне асноўнай праблемы затрымкі краіны з пераходам на сапраўды інтэнсіўныя метады дзейнасці ў эканоміцы, на паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, што вызначалася ў першую чаргу суб'ектыўным фактарам — разумным стратэгічным кіраваннем краінай. Я маю на ўвазе палітычную, эканамічную стратэгію, не толькі ваенную. На жаль, гэтага не было. І, мне здаецца, Савецкі Саюз к канцу эпохі Брэжнева ўяўляў сабой нейкую гіганцкую птушку, якая распластала свае крылы ад Ціхага акіяна да Балтыкі. Моцная, магутная, вялізная птушка не ўзлятала толькі з-за адсутнасці аднаго фактару — волі да гэтага. Палітычнай... Таму што хоць Брэжнеў і быў хворы, але ўсялякае выступленне з крытычнымі заўвагамі наконт нашага адставання, нават самы нязначны намёк на сур'ёзную прынцыповую крытыку ўспрымаў з варожых пазіцый... Не выпадкова шэраг разумных, вартых дзеячаў менавіта тады пакінулі свае пасады, якія занялі людзі больш слабыя, затое асабіста больш блізкія да Брэжнева.

**— Пра чый уход вы, Міхаіл Васільевіч, шкадавалі, шкадуеце?**

— Напрыклад, Шалепіна, разумнага, валявога чалавека.

**— Кім ён быў тады?**

— Сакратаром ЦК, членам Палітбюро. Дарэмна яго знялі. Несправядліва абышліся і з Воранавым. Не хачу сказаць, што значнай велічынёй быў украінскі сакратар Шэлест, але ён належаў да людзей сур'ёзных, дзейсных і сумленных. Былі і многія іншыя. Уключаючы рангам ніжэй. Мне імпанавалі ўпартыя, незгаворлівыя міністры, якіх менавіта за іх, так сказаць, ярпыстасць ад розуму замянялі на больш разважлівых, хоць і слабейшых у прафесіянальных адносінах. На жаль, асабістая адданасць кадраў у той час усё больш узнімалася ў цане. Вакол Брэжнева склалася штабная група з памочнікаў, розных неафіцыяльных саветнікаў на чале з Цуканавым і Аляксандразым. Менавіта да іх сцякалася ўся інфармацыя, прызначаная для кіраўніка дзяржавы, менавіта там яна сартавалася на «патрэбную» і «памылковую». Бліжэйшае акружэнне, уласна, і вызначала адносіны Брэжнева да людзей і спраў.

Карацей кажучы, пры знешне добрым выглядзе рух краіны стопарыўся. А калі спахапіліся (прыярытэт у гэтым «прачынанні» за Андропавым), дык было ўжо надзвычай цяжка змяніць сітуацыю.

**— Андропаў загаварыў яшчэ пры Брэжневе?**

— Не, у рангу кіраўніка дзяржавы. Да таго ён лічыў за лепшае маўчаць. Афіцыяльна маўчаў, хоць у асабістых размовах нам рознае здаралася закранаць.

Чарненка, безумоўна, паводзіў сябе больш стрымана, бо доўгія гады ён быў памочнікам Брэжнева і дзякуючы сваёй асабістай адданасці якраз і ўзняўся на такую вышыню. Як палітычны дзеяч, арганізатар, не гаворачы ўжо пра стан здароўя, ён даволі сярэдні.

**— У народзе рэпутацыя Андропава дастаткова высокая, многія шчыра лічаць, што, калі б не здарылася з ім смяротная хвароба, ён вывеў бы краіну з тупіка. Ці так гэта на самай справе? Ёсць, праўда, і іншы пункт погляду, вельмі злосны, дакладней, зларадны: калі б яму пашанцавала са здароўем і ён пабыў у Крамлі даўжэй, дык сёння яго імя паласкалі б разам з імем Брэжнева — і ў яго нічога б не атрымалася...**

— Да пары да часу, аж да назначэння Андропава Генеральным сакратаром, нас звязвала шматгадовая дружба з часоў камсамольскага юнацтва. Пасля знішчэння лідэра ЦК ВЛКСМ Аляксандра Косарава і яго акружэння мы адначасова сталі на чале кіраўніцтва камсамольскімі арганізацыямі—я на Беларусі, а Юрый Уладзіміравіч у Карэла-Фінскай Рэспубліцы. Так і крочылі потым побач.

**Аляксандр УЛІЦЁНАК.**

(Працяг будзе).

# Амерыканцы згодны дапамагаць нам у рэформе сістэмы аховы здароўя

**Раніцай у мінулы святочны панядзелак кіраўнікі Міністэрства аховы здароўя рэспублікі і буйных медустаноў Мінска былі як ніколі настроены на высокі прафесійны лад і гатовы да сур'ёзнай і шчырай размовы па ўсіх надзённых праблемах нашай шматпакутнай медыцыны з амерыканскімі калегамі: былымі класавымі ворагамі, а зараз спачувальным бокам і, магчыма, у недалёкай будучыні, партнёрамі. Менавіта з мэтай наладжвання супрацоўніцтва некалькі дзён правяла ў Мінску прадстаўнічая дэлегацыя Амерыканскага міжнароднага альянса здароўя (АМАЗ) на чале з Лі Хогенам, прадстаўніком Агенцтва міжнароднага развіцця ўрада ЗША.**

Дэлегацыя была спачатку прынята ў Міністэрстве аховы здароўя Беларусі. У гутарцы з яго кіраўнікамі амерыканцы так растлумачылі мэту свайго з'яўлення ў беларускай сталіцы. Сёлета ў студзені ў ЗША было прынята рашэнне па аказанню дапамогі дзяржавам СНД, якія набылі незалежнасць. Ужо ёсць праграмы па дапамозе ў рэформе сістэмы аховы здароўя, у прыватнасці па пастаўках медыцынскага абсталявання. Але, на погляд гасцей, лепшым відам супрацоўніцтва павінен стаць абмен спецыялістамі паміж бальніцамі, іншымі медустановамі.

Урад ЗША падтрымлівае ажыццяўленне гэтых планаў. Аб сур'ёзнасці намераў амерыканскага боку можна меркаваць па заяве каардынатара выканання праграмы Яраслава Дуткевіча, украінца амерыканскага паходжання. Ён паведаміў, што ёсць жаданне накіраваць да нас групу работнікаў малодшага і сярэдняга медперсаналу для вывучэння сітуацыі ў клініках рэспублікі. Каб пераканацца ў тым, што сярод нашага медперсаналу ёсць людзі, здольныя працаваць на сучасным абсталяванні.

Яраслаў Дуткевіч сказаў таксама, што асацыяцыя здароўя будзе сувязным звяном паміж медыкамі ЗША і Беларусі.

Вось так! Спачатку вывучаць нашы здольнасці, а потым ужо абсталяванне прышлюць. Гэты тэзіс не зусім прыемна было пачуць нашаму боку, але што рабіць, калі ў галіне медыцыны мы адсталі ад развітых краін на дзесяцігоддзі? І без дапамогі апошніх мы не хутка станем упоравень з імі.

Бо, як расказаў на сустрэчы міністр аховы здароўя Васіль Казакоў, нашай сістэме медабслугоўвання даўно патрэбна рэформа. Сярод прычын адставання ён назваў нізкі ўзровень дзяржаўнага фінансавання медыцыны, надзвычай дрэнны, калі не сказаць прымітыўны стан айчыннай фармацэўтычнай прамысловасці і вытворчасці медыцынскага абсталявання і інструментаў. І ўвогуле — наш урач забяспечаны сродкамі дыягностыкі ў 10—15 разоў горш, чым яго калега ў Заходняй Еўропе. А дадайце сюды катастрафічныя вынікі чарнобыльскага выбуху, крызіс эканомікі, разрыў гаспадарчых сувязей, татальны дэфіцыт лекаў... Вось тыя ўмовы, у якіх будзе праходзіць рэформа аховы здароўя.

Міністр быў шчырым з амерыканскімі калегамі, называў рэчы сваімі імёнамі, паабяцаў гасцям паказаць усё, што іх цікавіць. Яны папрасілі дазволу наведаць медыцынскі інстытут, інстытут радыяцыйнай медыцыны. Пярэчанняў не было.

Акрамя таго, госці наведалі 4-ю дзіцячую бальніцу, 9-ю і 10-ю бальніцы, 2-гі гарадскі радзільны дом, Мінскую абласную бальніцу, Мінскі дыягнастычны цэнтр. Тут, у прыватнасці, адбыліся гутаркі з урачамі. У амерыканцаў засталося добрае ўражанне аб іх кваліфікацыі. Яны былі прыемна здзіўлены тым, што некаторыя медыкі цэнтра без асаблівых цяжкасцей размаўлялі на англійскай мове.

Візіт дэлегацыі альянса завяршыўся кароткім імправізаваным «круглым сталом». Госці спяшаліся ў аэрапорт, а таму ўсе выступаючыя гаварылі коратка і толькі аб самым галоўным. Амерыканцы падкрэслівалі: яны задаволены аглядам медустаноў Мінска і разлічваюць на шырокае супрацоўніцтва з беларускімі партнёрамі. Але пры ўмове што іх будуць забяспечваць свежай, поўнай і аб'ектыўнай інфармацыяй аб стане медыцыны і аховы здароўя ў рэспубліцы. Прычым гэта думка неаднаразова прагучала ў розных варыяцыях.

Са свайго боку прадстаўнікі міністэрства запэўнілі, што з інфармацыяй ніякіх праблем не будзе. Такі падыход спадабаўся гасцям, і яны цёпла развіталіся з гаспадарамі.

...Ужо прыкладна ў пачатку жніўня ў ЗША нашы медыкі падпішуць дагавор аб супрацоўніцтве з амерыканскім Нацыянальным цэнтрам па барацьбе з ракам. Праграма сумесных даследаванняў разлічана на 30 гадоў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

ХАТНЯМУ МАЙСТРУ

## Растваральнікі

**Каб давесці малярныя фарбы да рабочай кансістэнцыі, а таксама каб ачысціць пэндзлі і іншыя інструменты ад фарбаў, на практыцы шырока выкарыстоўваюцца растваральнікі і разбаўляльнікі. Не лішнім будзе нагадаць, што яны ўсе вогненебяспечныя і патрабуюць уважлівых адносін і захоўвання тэхнікі бяспекі.**

**АЦЭТОН**

Гэта — цудоўны растваральнік для нітрафарбаў, але вельмі лятучы і вогненебяспечны.

**СІКАТЫВЫ**

Гэта — вокіслы некаторых металаў у выглядзе вадкасці. Іх ужываюць для паскарэння высыхання лакаў і пакостаў (аліф), масляных фарбаў і маслаў. У пакост або фарбу дадаюць 15—150 грамаў сікатываў на 1 кілаграм фарбавальнікаў. Трэба мець на ўвазе, што лішак сікатыву паскарае высыханне, але плёнка робіцца менш трывалай. Светлыя сікатывы трэба дадаваць у светлыя фарбы, а, адпаведна, цёмныя — у цёмныя фарбы.

**ШКІПІНАР**

Вельмі характэрная вадкасць з пахам смалы. Мае лімоннае, чырванаватае або чырвона-карычневае адценне колеру, але бывае і бясколерны. Шкіпінар дадаюць у масляныя фарбы для паскарэння іх высыхання. Змяшаны з пакостам, шкіпінар звычайна высыхае за суткі. Трэба памятаць, што кепска ачышчаны шкіпінар, наадварот, запавольвае высыханне фарбаў.

**БЕНЗІН І ГАЗА**

Яны ўжываюцца ў якасці растваральнікаў смол, для мыцця запэцканых маслянай фарбай рук, а таксама для вывядзення плям на адзенні.

**ЛАКАВАЯ ГАЗА, АБО УАЙТ-СПІРЫТ**

Вельмі вогненебяспечная, празрыстая бясколерная вадкасць. Яна раствараe смолы і нітралакі.

**СОЛЬВЕНТ-НАФТА**

Ужываецца для растварэння асфальтавых лакаў і штучных пакостаў. Вельмі добры растваральнік для гэтых рэчываў.

**Мы назвалі некалькі найбольш распаўсюджаных тыпаў растваральнікаў і самыя характэрныя іх вартасці. Ідучы ў краму «Лакі — фарбы», дзякуючы гэтаму можна ўжо мець аб растваральніках пэўнае ўяўленне. А падрабязныя характарыстыкі, тэхнічныя даныя і канкрэтныя спосабы прымянення прадпрыемствы-вытворцы звычайна змяшчаюць на фабрычнай ўпакоўцы растваральнікаў або на суправаджальных лістоўках.**



## Ці ведаеце вы, што...

**...сырыя агародніна і фрукты маюць антысклератычныя ўласцівасці!** У іх саставе зусім арыгінальны набор рэчываў: высокамалекулярныя вугляводы, пекцін і клятчатка, вітаміны і арганічныя кіслоты, сярод якіх асабліва карысная ў гэтых адносінах тартронавая. Гэтыя рэчывы спрыяюць вывядзенню халестэрыну, абмяжоўваюць утварэнне тлушчу ў арганізме. Тартронавая кіслата засцерагае ад пераўтварэння ў арганізме вугляводаў у тлушч. Асабліва багатая ёю сырая капуста. Але звярніце ўвагу—агародніна і фрукты менавіта ў сырым выглядзе, бо цеплавая апрацоўка зводзіць на нішто біялагічную актыўнасць тартронавай кіслаты. Таму і лічацца такімі карыснымі капусныя салаты, камбінаваныя—з капусты, яблыкаў, морквы і інш.

**...такая папулярная растваральная кава як прадукт харчавання не мае ніякай каштоўнасці!** Сам яе стваральнік—швейцарскі хімік Макс Маргенталер—сцвярджае, што растваральная кава ў дзесяткі разоў горшая за каву, згатаваную з молатых зярнят і што лепш ужо піць чыстую ваду.

**...алкаголь—спецыфічны нервовы яд!** Тлумачыцца гэта тым, што нервовая тканка багатая тлушчамі і тлушчападобнымі рэчывамі, якія добра раствараюцца ў спірце. А яшчэ тым, што галаўны мозг пры ўласнай вазе ўсяго каля двух працэнтаў ад вагі цела кантактуе больш чым з дваццаццю працэнтамі цыркулюючай у арганізме крыві. А праходзячы праз мозг, кроў пакідае ў ім ільвіную долю спірту, якім насычана.

**...алкаголь, па-першае, высокакаларыйны прадукт, а паколькі яшчэ і ўзмацняе апетыт, то паступленне калорый рэзка павялічваецца!** А гэта значыць, што не толькі тлушчы, але і вугляводы пачынаюць у выглядзе тлушчу адкладвацца ў тлушчавых клетках. Па-другое, алкаголь разбурае печань, якая горш спраўляецца са сваімі абавязкамі — перапрацоўваць тлушчы і вугляводы.

**...ёсць прыёмы і віды ежы, якія моцна стымулююць выпрацоўку стрававальных сокаў — ад сліны да кішэчнага!** А гэта вельмі часта шлях да выздараўлення. Напрыклад, наразанне лімона. Хоць кожны дзень, хоць тры разы ў дзень — усё роўна рот будзе поўны сліны. Каб выклікаць пажаданыя для арганізма працэсы, дастаткова нарэзаць лімон за 10—15 мінут да яды.



## Чысцім, мыем, выводзім плямы...

◆ **Тлушчавыя плямы на вопратцы і сінтэтычных тканінах** пасыпаюць бульбяным крухмалам і расціраюць яго вільготнай анучкай. Калі крухмал высахне, яго вычышчаюць шчоткай. Пры неабходнасці ўсё паўтарыць. На атласным шоўку пасыпаюць мелам, які расціраюць пальцам па пляме. З ацэтатнага шоўку выводзяць тампонам, змочаным у эфіры. На паперы такія плямы прамакаюць бензінавым тампонам. Затым паперу змяшчаюць паміж прамакаткамі і прыціскаюць грузам. Калі праз 20 хвілін пляма не знікне—паўтарыць. Запэцканыя шпалеры папырскаць бензінам, накласці прамакатку і папрасаваць гарачым прасам.

◆ **Масляная фарба з дрэва** знімаецца сумессю з 1 часткі шкіпінару і 2-х — нашатырнага спірту. Састаў узбоўтваецца ў закрытай бутэльцы, пакуль не стане падобным на малако. Затым вадкасць наносяць на пляму і праз некалькі хвілін выціраюць. На тэкстыльных вырабах свежыя плямы выдаляюцца шкіпінарам або бензінам, застарэлыя змазваюць маслам і праз два дні вычышчаюць шкіпінарам і мыльным шчолакам.

◆ **Калі будзеце мыць шарсцяныя рэчы,** дабаўце ў апошнюю ваду пры паласканні чайную лыжку гліцэрыны — яны стануць мякчэйшымі.

◆ **Белыя шкарпэткі, гольфы** добра адмываюцца, калі іх папярэдне замачыць на 1—2 гадзіны з дабаўленнем у ваду 1—2 лыжак борнай кіслаты.

## «Сумачка» для дроў




Тыя, хто жыве ва ўласных дамах і паліць у печы дрывамі, ведаюць, як нязручна насіць іх з вуліцы ў дом на руках. Прапаную простую сумку для дроў.

Робіцца яна з шасцімілімятровага дроту, а ручка, натуральна, з дрэва. (Гл. мал.).






НЕЧАКАНАЯ ПАРАДА

## Хоць такая карысць ад цыгарэты!

**Попел ад цыгарэт іншы раз бывае вельмі карысны, калі яго змяшаць з вотруб'ем і соллю. Калі такой сумессю нацерці медны посуд — таз, самавар і г. д. — і пакінуць яго на некалькі гадзін, а пасля чыста вымыць цёплай вадой, то гэты посуд будзе ззяць, быццам новы. Такой жа сумессю можна добра начысціць і вырабы з латуні, бронзы.**

**Яшчэ адна парада, дзе можна выкарыстаць попел ад цыгарэты. Калі на паліраваную паверхню мэблі трапляе вада, то часта застаюцца плямы, якія не вельмі проста ліквідаваць. Пасыпце іх попелам ад цыгарэты, а потым натрыце коркам, абпаленым на адкрытым полымі. І плямы знікнуць.**

РЭЦЭПТ З КАЗКІ

## Ці не пакаштаваць нам калабка?

Вядомая кожнаму з нас з дзяцінства казка пра калабка, відаць, нездарма лічыцца адным з лепшых шэдэўраў народнага фальклору. Толькі мала хто задумваўся над тым, каб самому выкарыстаць вельмі просты рэцэпт такой стравы з казкі. Дарэчы, на Беларусі калабок у розных мясцінах называюць па-рознаму: «піражок», «балабушка»...

Чытаем казку: «Старая так і зрабіла: намяла, наскрэбла жменькі дзве мукі, замясіла цеста на смятане, скатала калабок, падсмажыла яго ў масле і паклала на акно астудзіць...» Коратка і проста: зыходныя прадукты ўсе ўказаны — мука, смятана, масла; колькасць таксама зразумелая—вядома, няшмат мукі можа ўтрымаць старэчая жменя, смятаны і масла таксама няшмат спатрэбіцца. Ды і падсмажвала старая калабок, пэўна ж, не на газавай пліце, а ў сялянскай печы... Адпаведны, як кажуць, і размер «канчатковай прадукцыі».

Калі ж мама з татам, або дзядуля з бабуляй зробяць такі пачастунак для дзетак або ўнукаў, ды яшчэ разок раскажуць казку пра калабка, поўная гарантыя — гэта будзе цудоўным сямейным святам.

У дадатак можна калабок і аформіць такім, як мы прывыклі бачыць яго ў традыцыйных ілюстраваных кніжках.

